

№ 42 (203)
Лістапад 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:



Апошні прытулак Т. Рэйтана ў Грушаўцы

Палац Навіцкіх у Савейках

## Чытанні

**26 кастрычніка ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка адбыліся 6-я Танкаўскія чытанні. Канферэнцыя, пазначаная рэспубліканскай, стала міжнароднай. А разам з творчасцю Максіма Танка, чые 95-я ўгодкі адзначаліся ў верасні, увага даследчыкаў скіроўвалася і на спадчыну яшчэ двух сёлетніх юбіляраў – Янкі Купалы і Якуба Коласа.**

**(Заканчэнне на стар. 2)**

## Жыву ў Беларусі – і тым ганаруся

*Добры дзень, паважаная рэдакцыя!*

*Я з'яўляюся дырэктарам гісторыка-краязнаўчага музея Бараўской сярэдняй агульнаадукацыйнай школы і аўтарам факультатыўнага курса «Спадчына», складзенага ў асноўным на мясцовым матэрыяле. На базе музея працуе і навуковае таварыства школьнікаў, кіраўніком якога я таксама з'яўляюся. Хачу даслаць вам адну з прац нашых вучняў. Спадзяюся, вам будзе цікавы гэты матэрыял.*

*З павагай –*
**Тамара КЛЕПІКАВА**




***У Бараўской сярэдняй школе ёсць гісторыка-краязнаўчы музей. Адкрыты ён 8 мая 2001 года. Пры музеі ўжо некалькі гадоў працуе факультатыў «Спадчына». Разнастайныя ранейшыя напрацоўкі, прысвечаныя вывучэнню роднага краю, уклаліся ў зацверджаную ў 2005 годзе праграму працы факультатыва (з якой можна пазнаёміцца на сайце http://minsk-region.edu.by/main.aspx?uid=34800).***

На занятках факультатыва вучні найперш даведваюцца, што значыць слова «спадчына» па слоўніку, па тым, як тлумачаць яго пісьменнікі, знаёмяцца з той спадчынай, якую ім пакінулі іх продкі. Гэта і гістарычныя звесткі пра родную вёску, пра свае карані (складаюць уласныя радаводы), пра антрапонімы, гідронімы і тапонімы. Менавіта антрапанімія і тапанімія раскрываюць нам гісторыю роднага краю, яе насельнікаў, іх паходжанне, род іх дзейнасці.

Слухаюць вучні аповед пра капліцу-пахавальню, што знаходзіцца на Бараўской гары і ўжо больш за 100 гадоў пазірае на нас сваімі вачымавокнамі, як бы просячы дапамогі, гаворачы нашаму пакаленню: «Не руйнуйце мяне! Я – ваша спадчына! Шмат чаго магу распавесці пра набегі чужынцаў на вашы вёскі, як двойчы прыходзілі сюды немцы, палякі, рускія і былі выгнаныя з гэтай зямлі, як прыйшла рэвалюцыя і людзі, апантаныя свабодай, разбурылі старажытную царкву і званіцу, забілі пана Яленскага, спалілі яго маёнтак, разрабавалі вадзяны млын на рацэ Пяратуць. Пра 4-класнае народнае вучылішча, пабудаванае святаром Уладзімірам Квяткоўскім на сродкі пана Яленскага ў 1897 годзе. У гэтай школе вучылі Закону Божаму, матэматыцы, пісьму, чытанню і фізкультуры, бо краіне заўсёды патрэбны адукаваныя і здаровыя грамадзяне.

У 1930-я гады школа працавала ў дзве змены і была рэарганізавана ў сямігодку. У 1932 годзе сельскі Савет стаў нацыянальным польскім сельсаветам Койданаўскага нацыянальнага польскага раёна, адзінага на Беларусі. Ва ўсе школы ўвялі польскую мову. Супрацўляліся ёй і дзеці, і бацькі. У 1937 годзе раён і сельскі Савет сталі беларускімі.

Новыя ўлады вырашылі пабудаваць новую драўляную школу на 500 месцаў, і яна была адкрыта 1 верасня 1937 года.

1 ліпеня ў старым будынку школы быў адкрыты ФАП, куды прыехала працаваць маладая фельчарка Ганна Паўлаўна Кавалёва (мінчанка) і працавала на адным месцы 40 гадоў. У цяжкія гады ваеннага ліхалецця была партызанскай сувязной, дапамагала медыкаментамі і сваімі ведамі. Магу распавесці пра тое, як разрабавалі магілу святара Квяткоўскага, як у 1950-я гады спусцілі ваду са штучнага возера, а ў 1990-я быў прададзены будынак школы, які сам па сабе быў музеем. Як сумна шумяць сваёй лістотай векавыя ліпы, пасаджаныя ў 1899 годзе каля былой школы Пятром Сцяпанавічам Валадзько з вёскі Старая Рудзіца.

Багаты наш край не толькі на гісторыю, але таксама на ўмельцаў. Ужо ў XVII–XVIII стагоддзях у маёнтку Рудзіца арцель налічвала рамеснікаў 16 спецыяльнасцей. Перад вамі стаіць задача: апытаць жыхароў старэйшага пакалення пра таленавітых умельцаў і папоўніць спадчыну гэтымі звесткамі, а можа напісаць летапіс краю.

Не толькі таленавітыя раменікі нараджаліся ў беларускім краі. Наша зямля ўзгадавала акадэмікаў: Леаніда Вікенцьевіча Валадзько – фізіка, Антона Іванавіча Савасцюка – філосафа, Анатоля Вікенцьевіча Сабалеўскага – тэатральнага крытыка; кандыдатаў навук: Уладзіміра Гіляравіча Гаркуна – эканаміста, палітыка, Серафіма Юльянавіча Новіка – дацэнта кафедры фізвыхавання Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі. Вывучай сваю спадчыну і перадавай яе наступным пакаленням, разам з роднай мовай, каб не ўмерці».

Прыкладна так магла закончыць свой аповед старажытная капліца-пахавальня.

***Аляксандр ЯЦУК,** вучань 8 класа Бараўской сярэдняй агульнаадукацыйнай школы*

***Фота С. КЛЕПІКАВАЙ***

## Урок дзіцячай літаратуры

Нядаўна да юных гімназістаў горада Чэрвеня завіталі цікавыя госці – аўтары «Чырвонай кнігі ў казках і вершах».

Шырокі рэзананс сярод юных чытачоў краіны займела выдадзеная ў РВУ «Літаратура і Мастацтва» адметная прыродазнаўчая анталогія «Чырвоная кніга ў казках і вершах». Пацвярджэннем таму і сустрэча аўтараў зборніка з навучэнцамі Чэрвеньскай гімназіі № 1 імя У.А. Караля. Пра тое, як ствараласяя кніга, як над ёй працавалі мастакі Наталля Сустава і Мікалай Казлоў, а таксама выдавецкія работнікі, расказаў дырэктар РВУ «Літаратура і Мастацтва» Алесь Карлюкевіч. З вялікай цікавасцю слухалі юныя гімназісты паэтаў Уладзіміра Мазго і Генадзя Аўласенку, творы якіх змешчаны ў «Чырвонай кнізе...» Літаратары, якія добра вядомы юнаму чытачу, агучылі і свае новыя творы, узгадалі вершы з ранейшых кніг. На сустрэчы ішла размова і пра тое, што ў «Чырвонай кнізе ў казках і вершах» будзе працяг. А зараз у РВУ «Літаратура і Мастацтва» ідзе праца над «Лясной кнігай у казках і вершах». Прыродазнаўчая тэматыка становіцца адным з асноўных накірункаў у выданні дзіцячай літаратуры ў названай РВУ.

У падарунак бібліятэцы гімназіі госці ўручылі свае кнігі: Алесь Карлюкевіч – зборнік «Мы – вместе!», Уладзімір Мазго – «Прыгоды марахода», а таксама нядаўна выдадзеную ў РВУ «Літаратура і Мастацтва» кнігу Міхася Пазнякова «Падарожжа ў краіну загадак».

***Кастусь ЛЕШНІЦА***





## Жартоўная сенсацыя

### На «Каласавінах» прачытаны невядомы твор Якуба Коласа

***Жартам, які абяцае стаць фактам літаратуры, пачаліся 21-я «Каласавіны». Міхась Міцкевіч, сын Якуба Коласа, разбіраючы спадчыну бацькі, знайшоў недрукаваную раней эпіграму. Урывак з твора прапануе «КГ».***

Невядомая раней эпіграма напісана Якубам Коласам у 1920-х гадах, калі Янка Купала даволі часта наведваў паўднёвыя курорты.

*Абмыецца Янка ў нарзане,*
*Здаровы прыедзе, як бык,*
*Гарэлку піць Янка як стане,*
*Дык з'едзе наш Янка*
*на пшык.*

*Зноў Янка возьме пуцёўку,*
*Сгралою махне на курорт,*
*Бо Янка наш мае галоўку,*
*Бо Янка наш хітры,*
*як чорт...*

Міхась Міцкевіч распавёў прысутным, што твор быў прачытаны Янку Купалу паэтам Алесем Дударом, таму адрасат нават крыху пакрыўдзіўся на Якуба Коласа. Аднак і да гэтага, і пасля, па словах Міхася Канстанцінавіча, народныя паэты абменьваліся падобнымі досціпамі. «А колькі такіх малых знаходак яшчэ ёсць у спадчыне!» – кажа Міхась Міцкевіч.

Апрача сына Якуба Коласа, невялікае, але важкае для коласазнаўства адкрыццё зрабіў Генадзь Сенюкоў з прэс-цэнтра Інстытута нацыянальнай бяспекі Беларусі. Ён перадаў Літаратурна-мемарыяльнаму музею Якуба Коласа характарыстыку пісьменніка, датаваную 1939 годам.

На самым жа пачатку «Каласавін», прывітаўшы ўдзельнікаў, намеснік міністра культуры Валерый Гедройц правёў урачыстае гашэнне маркі і канверта, створаных да юбілею Якуба Коласа мастаком Міколам Рыжым.

Слушную прапанову ўнёс пасол Украіны на Беларусі Ігар Ліхавы: «Разам з класікамі-юбілярамі сёлета мусяць быць узгаданы імёны тых пісьменнікаў, каго знішчыў молах рэпрэсій». Такія словы тым больш важкія, што канферэнцыя адбывалася назаўтра пасля 70-годдзя «крывавай ночы» 29 кастрычніка, калі ў Мінску былі растраляны дзесяткі літаратараў і дзеячаў культуры.

На пленарным пасяджэнні з дакладам аб мемуарыстыцы пра Якуба Коласа выступіў член-карэспандэнт НАН Беларусі Міхась Мушынскі. Даследчык зазначыў цікавую акалічнасць: больш важкія для гісторыі ўспаміны пра класіка пакінулі людзі, што няшмат з ім кантактавалі (Іван Грамовіч, Алена Васілевіч і інш.), а вось аўтары грунтоўных мемуараў (Максім Лужанін, Міхась Лынькоў) часам замяняюць простую мову героя кніг на свае аповеды. Да ўсяго, Міхась Мушынскі распавёў: паводле мемуарыстыкі, Якуб Колас казаў, што ў канцы 1920-х ён не змог бы стварыць «Новую зямлю». Каб не творчы запал у свой час, мы маглі б застацца без шэдэўра ў нацыянальным пісьменстве.

Адам Мальдзіс, адзначыўшы выданне «Новай зямлі» на трох мовах Беларускага фонду культуры, прапанаваў выдаць 6–7-моўны том паэмы Якуба Коласа, улічваючы і найноўшы пераклад твора на ўкраінскую мову Валерыя Стралко, і працу венгерскіх беларусістаў, і цікавасць англійскіх ды амерыканскіх спецыялістаў у галіне перакладу.

У 3-х секцыях на самую розную тэматыку, звязаную з творчасцю Якуба Коласа, з беларускай літаратурай і яе сувязямі з іншымі літаратурамі свету, выступіў не адзін дзесятак даследчыкаў з розных навучальных і культурных устаноў Беларусі і з іншых краін.

Заключным акордам «Каласавін» стала аўтарская музычная кампазіцыя «Песня волі» кампазітара Ганны Караткінай паводле паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка», у якой прынялі ўдзел вядомыя музыканты і акцёр-«купалавец» Аляксандр Маўчанаў.

Працай «Каласавін» пачаўся юбілейны тыдзень, прысвечаны Якубу Коласу. Асяродкам свята стаў Коласаў дом. А варта было б, каб 3 лістапада, якраз па Дзядах, аб сваім Якубе Коласе прыгадалі ў кожнай беларускай сям'і. А «Каласавіны» (хоць слова і значыць у полацка-віцебскіх гаворках «пацёртыя каласы, буйная мякіна») якраз і вызваляюць коласазнаўства ад непатрэбнага лушпіння, спрабуючы даць аб'ектыўны новы погляд на вядомага творцу.

***Удзельнікі і ганаровыя госці «Каласавін» гэтага года атрымалі зборнік даследаванняў «Каласавіны-2006».***

*Сяргей ТРАФІЛАЎ*



## На тым тыдні...

● **30 кастрычніка** часопіс «Дзеяслоў» адзначаў сваё 5-годдзе. Віншавалі выданне яго сталыя аўтары Анатоль Кудравец, Віктар Казько, Уладзімір Някляеў, Сяргей Законнікаў, некалькі песень выканаў Зміцер Вайцюшкевіч. Па выніках літаратурнага года прэміі «Залаты апостраф» атрымалі Вольга Іпатава за раман «Ахвяры свяшчэннага дуба», Рыгор Сітніца за нізку вершаў «І голас Бога слухае душа...», Лізавета Дамініка-Панамарова за дэбютную паэтычную нізку «Крылы».

● **31 лістапада** «Каласавіны», што распачаліся днём раней у Коласавым музеі, прыехалі ў Стоўбцы – на радзіму пісьменніка.

● **1 лістапада** – дзень, багаты на падзеі, прысвечаныя Якубу Коласу. У Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры адкрылася выстаўка «Мой родны кут», якая ператварылася ў сустрэчу з вядомымі людзьмі. Са сваімі ўспамінамі выступілі сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, вядомыя артысты оперы Наталля Руднева, Віктар Скарабагатаў, патрыярх Купалаўскага тэатра Генадзь Гарбук, старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп. А ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылося дзіцячае свята «Казкі жыцця».

● Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі і Пасольства Рэспублікі Казахстан адкрылі **выстаўку батыка і габелена** Заўрэ Смагулавай «Паданне аб вечным». У сваіх творах аўтар паказвае асабістае бачанне і прыналежнасць да цывілізацыі намадаў (качэўнікаў). Спіралі, зігзагі, колы, іншыя архаічныя элементы – сімвалы жыццёвых пачаткаў – трансфармуюцца ў стылізацыі габелена і батыка.

● **3 лістапада** адбылося ўрачыстае ўскладанне кветак да помніка Якубу Коласу, пазней – урачыстая вечарына ў філармоніі.

● У той жа дзень успаміналі яшчэ аднаго паэта – Анатоля Сыса. **Канцэрт памяці** адбыўся ў дольнай зале касцёла святых Сымона і Алены. Удзел прымалі беларускія музыканты і паэты, а грошы, сабраныя за кошт запрашальнікаў, пойдуць на ўсталяванне надмагільнага помніка заўчасна памерламу літаратару на яго радзіме – у вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна.

*Чытанні*

## Шосты крок да танказнаўства

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Імянныя канферэцыі, прысвечаныя беларускім пісьменнікам і вучоным, пачалі з'яўляцца пасля таго, як многія універсітэты атрымалі гонар насіць іх імёны (БДПУ атрымала імя Максіма Танка, Гродзенскі універсітэт – Янкі Купалы, Гомельскі – Францыска Скарыны, Магілёўскі – Аркадзя Куляшова і інш.). Вядома, ад першапачатку асноўная ідэя іх – закласці школу вывучэння творчасці выдатнага мастака слова. Цяпер на тых жа Танкаўскіх чытаннях разглядаюцца не толькі пытанні танказнаўства, але і праблемы тэорыі і гісторыі літаратуры, мовазнаўства, методыкі выкладання беларускай мовы і літаратуры, культуралогіі. Па сутнасці, чытанні – брэнд навучальнай установы. А сёлета нават міжнародны – на канферэнцыю прыехалі госці са Славакіі, Украіны, Літвы.

Шостыя Танкаўскія чытанні найбольш прадстаўнічыя за 10 гадоў існавання. Імёны выступоўцаў на пленарным пасяджэнні не патрабуюць асаблівых каментарыяў: Уладзімір Гніламёдаў, Міхась Тычына, Аляксандр Лукашанец, Вячаслаў Рагойша, Пятро Васючэнка... Арганізатарамі ўдала быў прадуманы парадак выступленняў. Скажам, у дакладзе У. Гніламёдава гаворка вялася пра нацыянальную ідэю ў творчасці Максіма Танка, Янкі Купалы і Якуба Коласа, а ўжо ў наступным выступленні М. Тычыны давалася разгорнутая праграма дзяржаўна-культурнага будаўніцтва ў Беларусі з улікам ідэй класікаў слова.

Дыскусію выклікала выступленне дырэктара Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі А. Лукашанца. Навуковец прыйшоў да высновы аб ідэальным дэмакратычным двухмоўі. Прычым, па словах даследчыка, мы такога пакуль не дасягнулі. «У нас нацыянальнай большасці цяжэй адстойваць свае моўныя правы, бо гэта ацэньваецца як нацыяналізм». Але ж ці ствараюцца ў сённяшняй Беларусі духоўныя каштоўнасці на рускай мове? Лукашанец адказаў на такое пытанне даследчыка літаратуры і культуры Аляксея Рагулі, з пэўнымі агаворкамі, станоўча. Атрымліваецца, што і ў гэтым, спрадвечна беларускамоўным асяродку, пазіцыі нацыянальнай мовы страчваюцца?

Сярод заяўленых секцыйных дакладаў вызначыліся такія тэндэнцыі. Больш за трэціну выступленняў былі мовазнаўчага плану. Сапраўды незвычайныя тэмы – «Нікнэймы ў беларускім інтэрнет-дыскурсе (на матэрыяле інтэрнет-рэсурсаў tut.by і livejournal.com)» В. Бойка, «Пытанні беларусістыкі ў сучасным расійскім мовазнаўстве (пытанні інтэрпрэтацыі)» Дз. Дзятко і інш. А сярод літаратуразнаўчых выступленняў 23 даклады прысвечаны творчасці Якуба Коласа, 20 – Максіма Танка, 10 – паэзіі Янкі Купалы. Тут ярка вызначыўся Віталь Скалабан даследаваннем «Максім Танк: забытыя вершы 1941 года».

Танкаўскія чытанні сёлета атрымаліся буйной і значнай канферэнцыяй. 8 секцый, 180 удзельнікаў, іх шырокая геаграфія, незвычайныя і актуальныя тэмы. Хочацца спадзявацца, што Танкаўскія чытанні сапраўды стануць грунтоўным адпаведнікам (хай сабе і раз на 2 гады) славутым «Купалянятам» і «Каласавінам».



*Сяргей ТРАФІЛАЎ*

Цытатнік

### Каралеўскі гамбіт класікаў

**Уладзімір Гніламёдаў, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі:**

– Калі Янку Купалу не дазволілі назваць сваю паэму «Адраджэнне», то ён даў загаловак «Безназоўнае». А гэта ж таксама яркі вобраз. І па сёння «Безназоўнае» – адраджэнне нацыянальнай свядомасці, вяртанне.

**Міхась Тычына, загадчык аддзела тэорыі літаратуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі:**

– Выхаванне культурнага чытача і ўвядзенне ў еўрапейскі працэс – гэта купалаўска-коласаўская праграма нацыянальна-культурнага адраджэння не толькі гістарычнага, але і звышгістарычнага значэння, што мае дачыненне да ўсяго народа.

Свой выбар класікі рабілі не толькі за сябе, а і за тых, хто прыйдзе пасля. Атрымліваецца своеасаблівы каралеўскі гамбіт, калі стаўкай – жыццё.

**Аляксандр Лукашанец, дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі:**

– У сучаснай беларускай мове цяпер існуюць дзве тэндэнцыі. Адна да інтэрнацыяналізацыі (запазычванні, у асноўным, бяруцца з англійскай мовы), другая – да нацыяналізацыі (пурызм апошняга 10–15-годдзя).

Выкарыстанне абедзвюх дзяржаўных моў у абсалютнай большасці сфер – дэмакратычнае двухмоўе. На жаль, у нас такога не назіраецца, аддаецца перавага адной з дзяржаўных моў.

Нацыянальную большасць Беларусі, якая імкнецца адстойваць свае моўныя правы, абвінавачваюць у нацыяналізме. Прычым калі за такія ж правы змагаецца якаясьці з нацыянальных меншасцяў, гэта ўспрымаецца як барацьба за свае правы.

**Вячаслаў Рагойша, загадчык кафедры тэорыі літаратуры БДУ:**

– У педагагічным універсітэце імя Максіма Танка проста неабходна стварыць танказнаўчую лабараторыю. Такую ж, як ёсць па Скарыну ў Гомелі, па Купалу ў Гродне, па асобных пісьменніках у БДУ.





Спадчына ў небяспецы

# Дзве сядзібы – два лёсы

*У далёкім мінулым на Ляхавіцкай зямлі жыло шмат знакамітых людзей. Аб іх жыцці і дзейнасці цяперашняму пакаленню нагадваюць калісьці шыкоўныя, а цяпер напаўразбураныя сядзібы, занядбаныя паркі і скверы. Найбольшую цікавасць у турыстаў і краязнаўцаў выклікае маёнтак, які размешчаны за сем кіламетраў ад Ляхавічаў у вёсцы Грушаўка. Тут у сярэдзіне XVII стагоддзя жыў Тадэвуш Рэйтан (1742–1780), патрыёт Рэчы Паспалітай, непрымірымы праціўнік пертварэння Сейма ў Канфедэрацыю.*

Шмат чаго засталося ад грушаўскай сядзібы і дайшло да нашых дзён. Звяртае на сябе ўвагу вялікі жылы дом, які пазірае шырокімі вокнамі на цудоўныя палескія краявіды. Непадалёк кампактна месцяцца некалькі цагляных гаспадарчых будынкаў, вінакурня і значная частка тагачаснага



Праект рэканструкцыі палаца ў Грушаўцы



Куток старога парку

парку з разгалістымі дрэвамі, рэдкімі для нашых мясцінаў раслінамі, кустоўем. Два шэрагі ліп, клёнаў, ясеняў і лістоўніц, што выстраіліся па ранжыры, кіруюцца да капліцы, дзе пахаваны апошні з дынастыі Рэйтанаў – Юзаф. Дом, у якім ён доўгі час жыў, амаль не страціў свайго знешняга першапачатковага выгляду. Час пакінуў свой разбуральны след толькі ўсярэдзіне шматлікіх пакояў. Абвалілася тынкоўка, вышчарбацела паркетная падлога.



Занядбаны дэкор у палацы

Прыгледзеліся да грушаўскай сядзібы будаўнікі, рэстаўратары, іншыя спецыялісты і прыйшлі да высновы: сядзібу Рэйтанаў можна і трэба адрадзіць. За мэтазгоднасць правядзення аднаўленчых работ выступіў ляхаўчанін, член Саюза беларускіх мастакоў, сапраўдны падзвіжнік Сяргей Чарановіч. Ён – аўтар даволі арыгінальнага праекта рэстаўрацыі сядзібы і пераўтварэння яе ў маладзёжна-турыстычны цэнтр. У прыватнасці, у доме Рэйтана прапанавана адкрыць краязнаўчы музей і гасцініцу. У адным з паўразбураных памяшканняў, пасля яго рэстаўрацыі, можна размясціць майстэрню выяўленчага мастацтва. Дарэчы, у гэтай мураванцы ў далёкія гады размяшчалася керамічная майстэрня, дзе плённа працаваў адзін са здольных выхаванцаў Юзафа Рэйтана, мастак Антон Герасімовіч. У Баранавіцкім краязнаўчым музеі знаходзіцца адна з лепшых працаў гэтага майстра – барэльеф Адама Міцкевіча.

Праект Сяргея Чарановіча пачаў паступова ажыццяўляцца. На тэрыторыі грушаўскай сядзібы ўстаноўлены памятны знак у памяць аб Тадэвушы Рэйтане на беларускай і польскай мовах. А некалькімі гадамі раней адна з чыгуначных станцый на Ляхаўшчыне стала называцца «Рэйтанава». Для правядзення далейшых аднаўленчых работ у Грушаўцы выдзелена некалькі мільёнаў рублёў з дзяржаўнага бюджэту.

***За 20 кіламетраў ад Грушаўкі, у вёсцы Савейкі, знаходзіцца палацава-паркавы ансамбль, які ўключаны ў спіс гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі. Тут старадаўні парк, а дакладней, толькі невялікая частка яго, аздобленая высачэзнымі канадскімі таполямі, ялінамі, букам, рознымі відамі бэзу і іншым дэкаратыўным кустоўем.***

У засені гэтага зялёнага ўбрання стаіць прыгожы, вабнай архітіэктуры дом. Шмат якія даведачныя матэрыялы сведчаць, што тут жыў і валодаў навакольнымі ўрадлівымі землямі ў канцы XVIII стагоддзя генерал-губернатар Літвы Бенігсэну. Пазней гэтую сядзібу набыў Кшыштаф Незабытоўскі, а яшчэ праз некаторы час маёнтак перайшоў ва ўладанне Канстанціна Фадзея Рдултоўскага. Ён быў даволі адукаванай, таленавітай асобай. Пераклаў «Санеты» Адама Міцкевіча на некалькі моваў, у тым ліку на англійскую, быў асабіста знаёмы з ім, а таксама з Пушкіным. Сустракаўся з гэтымі паэтамі ў Санкт-Пецярбургу ў літаратурным салоне Караліны Сабальскай – адной з самых прыгожых жанчын таго часу.



Палац Навіцкіх у Савейках



Будынак бровара

Апошнім гаспадаром савейкаўскага маёнтка быў буйны землеўладальнік з незвычайным імем Гектар Бавентуравіч Навіцкі. У перыяд яго гаспадарання былі пабудаваны прамысловыя прадпрыемствы. Будынкі вінакурні і бровара нядрэнна захаваліся. Яны складзены з бутавага камення, з абодвух бакоў пакрытага гранітам. Прадукцыю для вытворчасці гарэлкі і пастаўкі яе імператарскаму двару закупаў Пётр Смірноў.



Жылы дом

Непадалёк ад прамысловай зоны размешчаны каскад сажалак, злучаных паміж сабой. Яны ўпрыгожвалі тэрыторыю парку, надавалі яму непаўторны выгляд. Цяпер штучныя вадаёмы, як, дарэчы, і ўся сядзіба, знаходзяцца ў поўным занядбанні. Ацалеў толькі жылы дом, таму што ў ім размяшчаўся ваенны шпіталь, затым піянерскі летнік, санаторый. Цяпер тут мясцовая медыцынская ўстанова. Двухпавярховы будынак-мураванка, што стаіць побач, напрыканцы мінулага стагоддзя перайшоў у прыватныя рукі. Дзіўна, як мясцовая ўлада магла дапусціць такое!?



Сажалка з востравам



Капліца Рэйтанаў

Гадоў некалькі таму па ініцыятыве мясцовага насельніцтва і пры непасрэдным яго ўдзеле была спроба навесці парадак на сядзібе. Быў выкананы пэўны аб'ём нескладаных работ. І на гэтым людзі апусцілі рукі, не адчуваючы ніякай падтрымкі і дапамогі з боку тых, хто распараджаўся фінансамі.

Савейкаўская сядзіба, якая ахоўваецца дзяржавай, мае поўнае права быць адроджанай і служыць грамадству ў адпаведнасці з яе статусам.

*Фёдар ЛАПАНІК,*
*г. Ляхавічы*

*Фотаздымкі*
*Сяргея ЧАРАНОВІЧА*
*і з www.radzima.org*

**Нашы землякі**

# Даследчык Заходняй Сібіры

***Шчыра скажу: пра слыннага нашага земляка Аляксандра Дуніна-Гаркавіча раней нічога не ведаў. Пісьменнік і краязнаўца Алесь Карлюкевіч зазначыў, што пра яго ён узгадаў у кнізе «Мы – вместе» (Мн., 2006). «Гэта твой зямляк. Звярніся ў Дэпартамент лясной гаспадаркі Ханты-Мансійскай аўтаномнай акругі-Югры Расіі. Там пра яго шмат ведаюць, дапамогуць», – сказаў мне Алесь.***

У Ханты-Мансійск напісаў ліст. І хутка атрымаў адказ ад прэс-сакратара Дэпартамента лясной гаспадаркі гэтай акругі Л. Шчарбаковай. Людміла Апанасаўна прыслала шмат цікавых дакументаў, матэрыялаў, фотаздымкаў. Акрамя таго, яна паведаміла, што на Табольшчыне ўшаноўваюць памяць пра Аляксандра Дуніна-Гаркавіча. У Ханты-Мансійску ёсць вуліца, якая носіць імя нашага земляка. У снежні мінулага года на будынку Югралесгаса была адкрыта мемарыяльная дошка. А сёлета летам у Ханты-Мансійску – помнік нашаму земляку. «Помнік вучонаму, даследчыку Паўночна-Заходняй Сібіры Аляксандру Дуніну-Гаркавічу з'яўляецца народнай ініцыятывай і пабудаваны на грошы неабыякавых людзей. Гэта – вынік іх шчырай і ад душы праведзенай працы... Вялікі дзякуй усім, хто стаяў у ля вытокаў такой ідэі, хто рэалізаваў праект стварэння помніка чалавеку, які з'яўляецца прыкладам для многіх і многіх», – сказаў на цырымоніі адкрыцця помніка губернатар акругі Аляксандр Філіпенка.

Гэта – прыклад і для нас. Дзесьці далёка, у Сібіры, ушаноўваюць нашых людзей, а нам на нашай зямлі гэтыя і іншыя знакамітыя землякі проста абыякавыя. Акрамя таго, там лепшыя студэнты Югарскага дзяржаўнага універсітэта атрымліваюць стыпендыю імя Дуніна-Гаркавіча, ствараецца яго гісторыка-этнаграфічны музей, яго імем названы дэндралагічны сад прыроднага парку «Самараўскі чугас», выдаюцца буклеты, працы нашага земляка. Вось як! Дарэчы, у 1995 годзе ў Маскве выйшла з друку кніга Вольгі Осіпавай «Даследчык Поўначы Аляксандр Дунін-Гаркавіч» пры фінансавай падтрымцы фонду «Адраджэнне Тобольска».

Аляксандр Дунін-Гаркавіч нарадзіўся ў 1854 годзе ў Слонімскім павеце Гродзенскай губерні ў сям'і губернскага сакратара Аляксандра Восіпавіча Гаркавіча. Магчыма, ён нарадзіўся ў Ружанах, якія тады ўваходзілі ў Слонімскі павет. Ды і пахрысціці хлопчыка менавіта ў касцёле ў Ружанах.

Пасля заканчэння Гродзенскай класічнай гімназіі наш зямляк паступіў у Лісінскае сярэдняе прафесійнае вучылішча, якое знаходзілася недалёка ад Пецярбурга. Тут ён атрымаў спецыяльнасць тэхніка-лесавода і званне ляснога кандуктара.

У 1875 годзе яго забіраюць на вайсковую службу. Спачатку ён служыць у лейб-гвардзейскім грэнадзёрскім палку імя Яго Імператарскай Вялікасці Аляксандра II, прымае ўдзел у руска-турэцкай вайне, на якой узнагароджваецца медалём «За храбрость» і становіцца унтэр-афіцэрам.

Пасля вайны Аляксандр Дунін-Гаркавіч едзе на Разаншчыну і 13 гадоў працуе ў розных лясных гаспадарках. Працуе сумленна, таму хутка прызначаецца ляснічым у Самарскае лясніцтва Табольскай губерні – найвялікшае лясніцтва Сібіры і Расіі. З гэтага часу і пачынаецца клапатлівая праца Дуніна-Гаркавіча па вывучэнні і апісанні Табольскай Поўначы – у вельмі цяжкіх умовах недаследаванай Сібіры. «Да вашага земляка Дуніна-Гаркавіча наш край уяўляў сабой на картах амаль што суцэльную белую пляму. Вядома, па Югры і раней падарожнічалі вучоныя, якія пасля пісалі даклады і выступалі з імі на навуковых таварыствах Пецярбурга, Масквы і ў іншых гарадах і краінах. Але гэта быў погляд людзей "з боку" на вялікі Югорскі свет. Упершыню сістэматызаваў, дэталізаваў і ўдакладніў веды па нашым краі менавіта Аляксандр Дунін-Гаркавіч, які сабраў найвялікшы матэрыял у экспедыцыях па поўначы Заходняй Сібіры», – напісала мне ў пісьме Л. Шчарбакова.

**«Да вашага земляка Дуніна-Гаркавіча наш край уяўляў сабой на картах амаль што суцэльную белую пляму»**

У 1903 годзе нашага земляка выбіраюць пажыццёвым членам Рускага геаграфічнага таварыства. А праз 6 гадоў – членам-карэспандэнтам Музея антрапалогіі і этнаграфіі пры Акадэміі Навук Расіі. Ён актыўна ўдзельнічае са сваімі прамыслова-эканамічнымі і этнаграфічнымі калекцыямі ў шэрагу ўсерасійскіх выставах, кіруе навуковымі экспедыцыямі і піша свае даследчыя працы, з якіх асабліва трэба адзначыць трохтомнік «Тобольская Поўнач», дзе апісаны геаграфічныя, эканамічныя, этнаграфічныя ды іншыя асаблівасці рэгіёна. «На днях вышлю вам у Слонім звычайнаю поштай трохтомнік прац вашага земляка, які выпусціла акруговая бібліятэка Ханты-Мансійскай аўтаномнай акругі-Югры», – напісала Л. Шчарбакова.


У экспедыцыі

Працы Дуніна-Гаркавіча я пакуль яшчэ не атрымаў. Але ведаю, што ў свой час ён быў упраўляючым лясамі Табольскай губерні, чыноўнікам асобых даручэнняў пры Галоўным упраўленні землеўпарадкавання і земляробства Расіі, ганаровым суддзём Табольскага акруговага суда і г.д. Сёння нават цяжка ўявіць, што наш зямляк-беларус у навуковых экспедыцыях прайшоў і праехаў на аленях і конях, праплыў па Югры каля 50 тысяч кіламетраў. Ён вывучыў прыродныя ўмовы басейна сярэдняй Обі і яе прытокаў – Іртыша, Казымы, Сасьвы. Пабываў на возеры Нумто, правёў тапаграфічныя здымкі мясцовасці, якія пазней ляглі ў аснову створаных ім картаў Табольскага возера, на якія былі нанесены пункты і рыбалавецкія зоны ў даліне ракі Об. За стварэнне карт Рускае геаграфічнае таварыства ўзнагародзіла Дуніна-Гаркавіча Малым залатым медалём.

**Зямляк-беларус у навуковых экспедыцыях прайшоў і праехаў на аленях і конях, праплыў па Югры каля 50 тысяч кіламетраў**

У 1896 годзе наш зямляк узначаліў падрыхтоўку і правёў усерасійскі перапіс насельніцтва ў Сургуцкай акрузе. За гэта атрымаў бронзавы медаль «За працу па першым усеагульным перапісе насельніцтва ў 1897 годзе». Ён быў таксама ўзнагароджаны ордэнамі Святой Ганны, Святога Уладзіміра, Святога Станіслава, сярэбраным медалём Аляксандра Неўскага і іншымі. За сукупнасць навуковых прац Аляксандр Дунін-Гаркавіч быў узнагароджаны сярэбраным медалём імя Пржэвальскага.

Прэзідыум Акадэміі Навук СССР за вялікі ўклад нашага земляка ў вывучэнне Поўначы залічыў яго ў катэгорыю вучоных саюзнага значэння і ўстанавіў яму пажыццёвую персанальную пенсію.

Наш зямляк пражыў 72 гады і памёр у 1927 годзе ў Табольску, дзе і пахаваны. Яшчэ пры жыцці ён выдаў шмат кніг, прысвечаных Табольскай Поўначы. Яны пабачылі свет у Пецярбургу і Табольску. Некаторыя з іх проста хочацца пералічыць: «Поўнач Табольскай губерні» (1897), «Геаграфічны нарыс Табольскай Поўначы» (1904), «Этнаграфічны склад насельніцтва Табольскай губерні ў 1904 годзе» (1906), «Геаграфічнае апісанне нізоўяў ракі Обі і ўмовы суднаходства» (1908) і іншыя. Сёння ў Табольскім дзяржаўным гісторыка-архітэктурным музеі-запаведніку захоўваецца спадчына Аляксандра Дуніна-Гаркавіча, а гэта 69 друкаваных і рукапісных прац па гісторыі, геаграфіі, эканоміцы, этнаграфіі Поўначы Заходняй Сібіры, картаграфічныя матэрыялы, камплекты фотаздымкаў, малюнкі, чарцяжы і іншае.

**Спадчына Аляксандра Дуніна-Гаркавіча – 69 друкаваных і рукапісных прац па гісторыі, геаграфіі, эканоміцы, этнаграфіі Поўначы Заходняй Сібіры, картаграфічныя матэрыялы, камплекты фотаздымкаў, малюнкі, чарцяжы і іншае**


Дунін-Гаркавіч сярод сваіх сяброў


Помнік Дуніну-Гаркавічу ў Ханты-Мансійску

*Нам сёння застаецца толькі сказаць дзякуй сібіракам, якія памятаюць пра нашага земляка Аляксандра Дуніна-Гаркавіча і ўшаноўваюць яго імя, бо ён вельмі шмат зрабіў для Поўначы Заходняй Сібіры і Югры і аддаў ім усе свае сілы і жыццё.*

Сяргей ЧЫГРЫН,
г. Слонім








*(Працяг. Пачатак у №№ 3–41)*

*1928 год.* Падзеі вакол Я. Купалы працягваюць развівацца спрэчна: з аднаго боку, у розных беларускіх кутках і нават за межамі Беларусі яго чакаюць нецярпліва, сустракаюць з захапленнем (Горкі, Орша, Харкаў, Кіеў), выходзіць зборнік «Янка Купала ў літаратурнай крытыцы», паўсюдна ставіцца яго «Паўлінка», ён абіраецца правадзейным членам Беларускай Акадэміі навук, але разам з тым у сакавіку на бюро ЦК КП(б)Б было фактычна дадзена ўказанне, каб ягоную п'есу «Тутэйшыя» (якую Купала «дапрацаваў не зусім у адпаведным духу»), знялі з рэпертуару.

...Можа, і таму зноў ёсць патрэба Купалу з'ехаць з дому – на новае лячэнне, на гэты раз у Кіславодск (на наступны год паедзе ў Ялту).

*1929 год.* 1 студзеня адбылося адкрыццё Беларускай Акадэміі навук, дзе Я. Купала быў абраны яе акадэмікам. У гэты час ён піша ўжо не столькі шмат, як раней, але як для яго, так і для беларускай, усёй славянскай літаратуры ўдаецца іншы значны паэтычны ўраджай: з архіва Б. Эпімаха-Шыпілы (1859–1934) была перададзеная частка яго невядомых грамадскасці рукапісаў, што ў царскі час не пабачылі свету з-за цэнзурных меркаванняў (усяго каля 65 вершаў): «Слугам алтарным», «Перад бурай», «Я не для вас...», «Маладая Беларусь», «Усё саюзы...», «Водклік з 29 кастрычніка 1905 г. у Мінску» і інш.

У Празе выходзіць даследаванне «Славянскія літаратуры», дзе Я. Купалу даецца высокая ацэнка як аднаго з лепшых славянскіх пісьменнікаў, адзначаны глыбокі лірызм ягонай паэзіі, шырокі поспех «Паўлінкі» і «Прымакоў», сцверджана, што драма «Раскіданае гняздо» – вобраз Беларусі напярэдадні рэвалюцыі 1905–1907 гадоў. У друку з'яўляюцца новыя пераклады ягоных твораў на рускую, украінскую і іншыя мовы народаў СССР.

*1930 год.* Прыкладна паўтараецца Купалаў лад жыцця – творчая праца дома, літаратурныя вечарыны ў розных беларускіх мясцінах (Мінск, Бабруйск, Віцебск, Гомель, Хойнікі, Мазыр) і нарастанне трывогі. Часцяцца арышты вядомых беларускіх дзеячаў пад ідэалагічнымі падставамі, але на самой справе па надуманых схемах (сярод блізкіх яму людзей у красавіку знявольваецца, пазбаўляецца звання акадэміка і высылаецца ў Саратаў В. Ластоўскі), хоць пакуль што савецкая ўлада працягвае з ім гульню: напрыклад, сам тагачасны міністр (наркам) асветы СССР, публіцыст і драматург А. Луначарскі ў маі змяшчае ў «Известиях» артыкул, дзе высока ацэньвае Купалу, падкрэсліваючы, што паэт з'яўляецца бацькам беларускай паэзіі (тады пачало ўваходзіць у моду называць слова «отец» – «отец народов» і інш.). Дарэчы, А. Луначарскі ад імя камісарыята асветы РСФСР прымаў удзел ва ўрачыстасцях у Камакадэміі (Масква) у сувязі з 25-годдзем літаратурнай дзейнасці Купалы і нават выступіў з уступным словам. Віншуе Купалу з юбілеем першай публікацыі ад імя тагачаснага СНК БССР М. Галадзед.

# Іскрынкі добрага смеху

***Удзячная тэма: Колас і гумар. Іскрынкі добрага смеху шчодра рассыпаны ў творах песняра. І ўспаміны сучаснікаў даносяць да нас вобраз знешне строгага, але мудрага, добрага чалавека, па-народнаму здатнага на вобразнае слова, часта з гумарыстычным адценнем. Сітуацыі, прыведзеныя тут, у асноўным пачэрпнуты з кнігі Максіма Лужаніна «Колас расказвае пра сябе».***

Колас дамовіўся сустрэцца з Глебкам, каб прачытаць разам рукапіс. Мінула з паўгадзіны звыш умоўленага тэрміну, а Глебка ўсё не з'яўляўся. Вельмі пунктуальны, бо сам заўсёды трымаў слова і не дазваляў сабе ніколі спазніцца, Колас сказаў незласліва:

– Наш Пятро збіраецца, як шляхцянка ў касцёл. Ксёндз казань канчае, а яна яшчэ ўсіх аплікоў не пазашпіляла.

* * *

Іяшчэ – пра фанабэрыстасць шляхты, беларусаў каталіцкай веры, якія праз гэта лічылі сябе палякамі.

– Цэлы тыдзень, – заўважыў Колас, – працуе такі шэршань поруч з так званымі мужыкамі, гной раскідвае ці снапы возіць. І гаворыць, і лаецца чыста па-беларуску. А ў нядзелю, выбіраючыся ў касцёл, раптам пачынае «польшчыць»: устаўляе ў гаворку пятае ці дзесятае польскае слова, дый то перакручанае. Сыдуцца два такія недапанкі і пачынаюць:

– Як пан здровы?

– Ніц собе, але спіна баліць.

А сяляне смяюцца, кажуць:

– О, ужо распачалі гавэнды гавэндзіць...

* * *

А наконт паспешлівасці і марудлівасці ў ацэнцы жыццёвых сітуацый Колас неяк прыгадаў наступную гісторыю.

Жыў чалавек у Мікалаеўшчыне, быў ён гарачы і порсткі. Паехаў неяк зімою па сена. Пакуль поркаўся каля стажка, кабыла не захацела мерзнуць, адарвала повад, завярнулася і з ходу дамоў. Дзядзька задыхаўся, пакуль да двара бег, умакрэў, ад злосці аж дрыжыць. Не трапіла пад рукі попліскі, дык ускочыў у хату і крычыць жонцы: «Давай сякеру, засяку кабылу!» А жонка лагодненька, ведаючы характар мужа: «На з'еш гарачай капусты, бо здарожыўся. Падмацуешся, тады і засячэш». А калі ўправіўся праз добрых паўгадзіны, жонка дастала з-за лавы сякеру: «То ідзі ўжо хіба, засячы». Дзядзька толькі глянуў: «Ну і хітрая ты». І пайшоў выпрагаць кабылу.

* * *

Адстойваючы перад рэдактарамі-ва ўласным зборы твораў права на ўжыванне некаторых «небеларускіх» слоў, Колас прывёў такую гісторыю. Маўляў, два браты дзялілі бацькаву спадчыну. Адзін вельмі памяркоўна саступіў другому кабылу з жарабём, цялушку, авечак і ўсё лепшае і каштоўнае. А дайшло да скрутка лазовай кары, што вісеў над страхою, узяў і ўпёрся: «Лыка маё, лыка не аддам».

* * *

На дзён нараджэння Якуб Колас часта пісаў смяшлівыя прысвячэнні. Агалошваліся яны пры таварыскай бяседзе, у невялікім дружбацкім гурце пісьменнікаў. Ён перасягаў маладзейшых за яго на дзесяткі гадоў і ў жартах, і ў экспромтах, і ва ўдалых тостах. А калі хто спяшаўся рана падняцца з-за стала, то даводзіў:

– Сядзіце, хлопцы. Сёння пісаць усё роўна не будзеце, а дзеці вашы без вас не пажэняцца.

* * *

Уапошнія гады жыцця пісьменніку часта нядужылася. Але і ў бальніцы яго не бачылі змрочным, трымаўся заўсёды з аптымізмам. І пісаў прысвячэнні дактарам, з гумарам усхваляючы іх цудадзейную моц. Шчыра смяяўся таксама падобным «творчым удачам» таварышаў. Як прыгадвае Максім Лужанін, паплечнік і сакратар народнага песняра, Колас у бальніцы пасля аперацыі апендыцыту яго наведаў сам. І перадаў падзяку ад урача Бобрыка. Той, кажа, вельмі рагатаў, калі прачытаў: «Гэта ўсё мінецца, час усё заліжа... Дзякуй, дзядзька Бобрык, што не рэзаў ніжай...»

– Гэтаму майму збавіцелю, дый твайму, не зашкодзіла б прысвяціць і паэму, – заключыў Колас ужо сур'ёзна.

Нездарма сказана: смех – сведчанне сілы. І чалавек з тонкім, дасціпным пачуццём гумару ўпэўнена трымае сябе ў розных, самых складаных жыццёвых сітуацыях, дае зарад аптымізму іншым.

***Фёдар ФЯДОТАЎ,***
***журналіст,***
***г. Стоўбцы***



Ілюстрацыя В. Шаранговіча да «Новай зямлі» на трох мовах

*Кнігу можна набыць у ГА «Беларускі фонд культуры».*

*Тэл./факс 017-334-42-03; e-mail: bfk@tut.by*

***Мікола МАЛЯЎКА***

## У Цёмных Лядах — светла на душы

*У Цёмных Лядах – светла на душы.*
*Тут Колас малады пасля астрога*
*Туліўся ў брата: царская аблога*
*Сціскала клешчы і ў лясной глушы,*
*На волі быццам, а маўчы, дрыжы.*
*Не ведаў ён тады, паэт ад Бога,*
*Куды з аблогі выведзе дарога, –*
*Туляўся ў родным краі як чужы.*
*Не даязджаючы пралёт*
*да Стоўбцаў,*
*Сыходжу з цягніка адзін,*
*без хлопцаў.*
*Сыходжу я, наіўны чалавек,*
*У той далёкі час, у тыя Ляды, –*
*Нібы лягчэй цяпер, праз цэлы век,*
*Паэту стане ад маёй спагады.*

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–41)*

У маі 1933 года прыняты ў Саюз савецкіх пісьменнікаў БССР. Членскі білет № 48 быў падпісаны старшынём праўлення СП СССР М. Горкім. У жніўні прымае ўдзел у рабоце I Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў (на ім было 582 дэлегаты, якія прадстаўлялі больш чым сорак літаратур народаў СССР), выступае ў спрэчках па дакладзе М. Горкага (ён цёпла сустракаў беларускую дэлегацыю дома), быў абраны ў склад Праўлення ССП, што, безумоўна, падвысіла ягоную ўсесаюзную вядомасць.

## *Па шляху сацыялістычнага рэалізму*

Паколькі ён (сацрэалізм) меў самае непасрэднае дачыненне і да Янкі Купалы ды Якуба Коласа, то варта крыху запыніць увагу на гэтым вызначэнні. Яно, як вядома, упершыню з'явілася ў «Литературной газете» ў 1932 годзе, а было замацавана на I Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў у 1934-м.

Як было засведчана тады і распрацавана пазней, гэты метад азначаў «новы тып свядомасці на базе матэрыялістычнай філасофіі і вучэння Маркса-Энгельса-Леніна (неўзабаве сюды раўнацэнна далучылі і Сталіна), што азначала адлюстраванне «рэвалюцыйнай героікі, барацьбы новага са старым», «лепшага з добрым», «стварэння новага тыпу героя – аптыміста, барацьбіта, будаўніка, кіраўніка, сярод якіх на першы план выходзіў адданы партыі і народу, сацыялістычна-камуністычным ідэалам бальшавік», «абагачэнне класічных жанраў», што ўсё разам узятае павінна было натхніць савецкіх пісьменнікаў пісаць творы «нацыянальныя па форме, інтэрнацыянальныя па змесце» і быць у ліку «самай перадавой літаратуры ў свеце». Калі неўзабаве некаторыя заходнія палітолагі, пісьменнікі пачнуць зазначаць, што гэты «новы» метад – партыйны прымус, занявольванне творчасці (не толькі пісьменнікаў), то такім «выпадам» знайшоўся своеасаблівы адказ. І не абы ад каго. Ад Шолахава! Ён парыраваў прыкладна так: нас папікаюць, што мы пішам па ўказцы партыі. Не. Мы пішам па ўказцы свайго сэрца, а наша сэрца належыць партыі. Гэты адказ вельмі спадабаўся Сталіну, і гэтая акалічнасць у вялікай ступені выратавала жыццё аўтару крылатай фразы (быў ордэр на яго арышт).

Колас і Купала былі «падрыхтаваныя ўжо» сацыялістычнічаць у літаратуры: першы – вобыскамі ў 1925 і 1930-х, так званым «пакаянным лістом», другі – шальмаваннем, якое давяло яго ў 1930-м да спробы самагубства. Ды і тым, што пасля I з'езда саюза пісьменнікаў СССР партыйныя органы, многія крытыкі і самі пісьменнікі пачалі адсочваць, у чыіх публікацыях і колькі твораў пра партыю і камуністаў, пра слаўнае сацыялістычнае будаўніцтва пад іхнім кіраўніцтвам, перадавікоў, пра мужных воінаў і камандзіраў Чырвонай Арміі, чэкістаў, камсамольцаў і піянераў.

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*





**Мянушкі – не прозвішчы, але...**

## Сказ аб роднай мясцовасці і яе цудоўных

...Любоў да Радзімы нагадвае каханне да мужчыны.

Нязмернае шчасце, калі недзе ёсць вёсачка, якая чакая цябе, каб затуліць крылом спакою і зрабіць мацнейшым. І, напэўна, не раз імя яе ты паўтараеш у думках, як імя блізкага чалавека...

Любоў да радзімы не з'яўляецца вынікам атрыманых ведаў; хутчэй імкненне да ведаў ёсць вынік любові да радзімы. Менавіта гэтай любоўю дыктуецца жаданне зразумець загадкі даўніны, даведацца пра тое, што было, але чаго ўжо няма, ці што засталося малапрыкметнымі слядамі ў скупых словах летапісу і нешматлікіх дакументах, што зацерліся гужам стагоддзяў, зацягнуліся глухімі туманамі мінулых эпох.

Любоў да сваёй вёскі, да паважаных аднавяскоўцаў – гэта вялікая таямніца, у якой нялёгка прызнацца. Але ўсё ж такі я адважуся гэта зрабіць. І прызнаннем маім будзе гэты сказ – «Сказ аб роднай мясцовасці і яе цудоўных жыхарах».

***

Паміж чалавечым жыццём і маёй вёскай ёсць некаторае падабенства. Як чалавек, яна нарадзілася, расла, дасягнула пэўнага росквіту, састарэла і, на жаль, праз пэўны час можа знікнуць. Сваё імя вёска атрымала ад чалавека, які з'яўляецца адным з яе заснавальнікаў, прозвішча яго – Краўчонак ад слова «кравец», адсюль і назва – вёска Краўчонкі. Да сённяшняга часу там жывуць яго цёзкі па прозвішчы і нашчадкі. Напаўняюць вёску цудоўнага лёсу жыхары, якія пражылі тут шмат гадоў і памятаюць яе ад нараджэння, іх жыццё не мае зыходнага пункту, яно не паддаецца спазнанню. Ніводная дата не з'яўляецца першапачатковай: заўсёды нешта было і раней. Дзейнасць кожнага пакалення цягнецца паўстагоддзя ці крыху і больш, потым яго змяняе наступнае і само саступае месца новаму, і ў гэтай змене, у працягу клопатаў, у перадачы канкрэтнымі людзьмі адзін аднаму вопыту і традыцый, сваіх духоўных здабыткаў і прадзецца нітка часу. Найвялікі жаль, што новае пакаленне часамі мае зусім іншыя прынцыпы, прыярытэты. Моладзь з упэўненасцю спяшаецца ў вялікія гарады, а старэйшыя аддаюць радзіме.

Вы будзеце здзіўленыя, але мая вёска, сапраўды, як чалавек, мае мянушку. Пайшла яна ад слова «тамашнія». У даўніну, калі заезджы чалавек пытаўся, дзе знаходзіцца вёска Краўчонкі, яму адказвалі: «А, там аж!», бо яна месцілася каля лесу, за вялікім полем і лугам. Потым, з цягам часу, жыхароў вёскі пачалі называць «тамашнія», а вёску – Тамашкі. Ведаеце, калі я чытаю легенды паходжання маёй вёскі (а іх вельмі шмат), я прыслухоўваюся і адразу ж чую грукат станкоў, гаворку майстроў, рыпенне колаў, размовы купцоў і гул бітваў... Нішто не маўчыць для таго, хто навучаны слухаць...

Адна са старэйшых жыхарак вёскі – Ганна Кажура. Цікавая яе мянушка – Цяпа. Чаму Цяпа? А справа ў тым, што ў добрай жанчыны не заўсёды ўсё атрымоўваецца, і як кажуць, зрабіла цяпляп. Другая жыхарка – Сафія Краўчонак мае мянушку Кірычыха. Ад імя дзеда – Кірык, муж яе – Георгій Краўчонак, яго ўсе ў вёсцы завуць Жорык. Як бачыце, гэтыя жыхары маюць прозвішча Краўчонак ад назвы вёскі. Настасся Мацкевіч носіць прозвішча мужа, якое пайшло, на мой погляд, ад беларускага слова «мацаць» (альбо «мацак» – моцны. – Рэд.). На сённяшні дзень самай маладой жыхаркай вёскі з'яўляецца мая матуля Ганна Ляпко, яна таксама носіць прозвішча беларускага паходжання, часцей яно сустракаецца ў Магілёўскай вобласці, ад якога слова паходзіць – дакладна невядома, але ёсць думкі, што ад слова «ляпіць».

Выклікае інтарэс тое, што вёска раздзелена на дзве часткі, падзяляе яе шаша. Чамусьці другую частку вёскі не называюць Тамашкі, мабыць ад таго, што яна бачна адразу з дарогі. Па гэты бок жывуць: Валянціна

# Не дзеля фразы

***У канцы 1960-х гадоў, калі ў мяне са школьнымі сябрамі быў пэўны вопыт веласіпедных вандровак па цэнтральнай і заходняй Беларусі, мы зрабілі болей чым стокіламетровы аднадзённы выезд, які раніцаю пачынаўся, а вечарам заканчваўся ў маіх родных Жыгалках. Маршрут быў знаёмы (наколькі дазволілі яго вывучыць гістарычна-даведачныя крыніцы) і незнаёмы (наколькі захаваліся тыя дарогі, якія былі пазначаны на старой карце-кіламетроўцы). У канцы Бабоўні, ля могілак, што пры дарозе на Капыль, мы спыніліся. Тут, паводле амаль выпадкова раздабытых звестак, была пахавана паэтка Зоф'я Тшашчкоўская. Каб пацвердзіць гэта і знайсці яе магілу, мы падзяліліся і пачалі абследаваць могілкі. Мяне пацягнула ўлева, і я вельмі хутка натрапіў на ляжачую гранітную пліту з выбітым надпісам на польскай мове, што тут знайшла вечны спачын Зоф'я Тшашчкоўская і што памерла яна 7 кастрычніка 1911 года.***

Тшашчкоўская – гэта прозвішча па мужу, афіцэры-артылерысце расійскага войска. Да замужжа яе звалі Зося Манькоўская. Нарадзілася яна 26 лістапада 1847 года ў бацькоўскім маёнтку ў Дарагавіцы, што ў межах сённяшняга Капыльскага раёна.

Шасцігадовую Зосю Манькоўскія неаднойчы бралі з сабою, калі ехалі з-пад Капыля за Стоўбцы, у Залуча, арандаванае славутым вясковым лірнікам Уладзіславам Сыракомлем, сястра якога Альжбета была замужам за Антонам Раецкім, родным братам Зосінай маці.

Пазней за ўважлівасць і пранікнёнае слуханне Уладзіслаў Сыракомля назваў Зосю Манькоўскую «няхібнай». Было гэта ў першы год яе вучобы ў Вільні, у прыватным пансіёне Францішкі Клячкоўскай. У той час знакаміты пясняр беларускага краю арандаваў падвіленскі фальварак Барэйкаўшчына і наездамі жыў у Вільні. Зося, такім чынам, мела магчымасць на правах сваячкі часта бачыць вясковага лірніка.

Патрэба выказацца ў вершаванай форме ў яе з'явілася яшчэ ў Дарагавіцы, калі ёй не было і пятнаццаці гадоў. «Песенька мая, – згадвала Зоф'я Манькоўская, – абуджаная яшчэ дома смерцю брата, – пад уплывам новага атачэння, цудоўнага краявіду гор, які адкрываўся з вокан пансіёна, старога саду, старых успамінаў, набыла мацнейшае гучанне. Сыракомля пра гэта даведаўся – і нейкая дзіцячая песенька закранула яго душу. З таго ён часу хацеў часта мяне бачыць ля сябе... Надышоў дзень маіх імянін, і мой дарагі пясняр прыслаў мне напаўжартоўную, напаўчуллівую песеньку:

*О, вінавайка! Увесь май пад ззяннем*
*Дрэвы зяленіць і ў квет прыбірае;*
*Хай цябе так атуляе спрыяннем*
*Зоф'я Святая!*

*Неба ў хмурынах, бо наш лёс пануры,*
*Ды сонца воблакі ўжо прабівае:*
*Маліся, хай пражане тыя хмуры*
*Зоф'я Святая!*

*Талент, які ў Цябе, – гэта дар Божы,*
*Хай сябе ў песні радзімай яўляе,*
*Хай жа складаць Табе песні паможа*
*Зоф'я Святая».*

Было гэта 15 мая 1862 года. Перад тым жа вясковы лірнік, які хваліў Зосіны вершы, у адзін з Велікодных дзён сказаў, што ёй «суджана спяваць пасля яго на сіратлівай Літве». Пра гэта Зоф'я Манькоўская расказала ў лісце ад 18 лістапада 1871 года, якім адгукнулася на абвестку Вінцэся Каратынскага, звернутую да ўсіх з просьбай, у каго ёсць творы вясковага лірніка, даслаць іх для поўнага выдання яго паэзіі. У свой ліст адрасантка ўпісала Сыракомлеў верш «Да панны Зоф'і Манькоўскай», часткова працытаваны вышэй у маім перакладзе.

Ліст, адрасаваны Вінцэсю Каратынскаму, з якім Зоф'ю Манькоўскую лучылі цёплыя ўспаміны былых стасункаў з вясковым лірнікам, быў адпраўлены з павятовага гарадка Зарайск Разанскай губерні. Там стаяла вайсковая часць, дзе служыў яе муж Вацлаў Тшашчкоўскі, за якога выйшла замуж пасля сканчэння ў 1866 годзе заняткаў у пансіёне, правучыўшыся там пяць гадоў. Каб быць побач з мужам афіцэрам-артылерыстам расійскага войска, Зоф'я паехала разам з ім на Балканы, на руска-турэцкую вайну 1877–1878 гадоў і выконвала абавязкі сястры міласэрнасці.

Вяртанне з балканскага паходу было знамянальным у тым сэнсе, што, па сутнасці, вярнула Зоф'ю Манькоўскую да творчасці. У лісце да рэдактара варшаўскага часопіса «Ïусіе» Зянона Пшасмыцкага (Мірыяма), паэта і літаратурнага крытыка-эстэта, яна, хаваючыся за абраны для друку крыптанім Адам М-скі (імя і скарочанае прозвішча бацькі Манькоўскай), 14 сакавіка 1889 года пісала: «Я вяртаўся з турэцкай вайны, замучаны дунайскай ліхаманкай і гарачкавымі галюцынацыямі, хацеў чым-кольвечы асвяжыць думку ў знясільвальным дунайскім паходзе; у Кішынёве, у краме, на паліцы між бутэлек віна, свечак і мыла я знайшоў 8 тамоў паэзіі, якія адразу ж у дарозе пачаў перакладаць».

У Ноўгарадзе, куды перавялі артылерыйскую брыгаду, у якой служыў палкоўнік Вацлаў Тшашчкоўскі, Зоф'я Манькоўская ўзялася перакладаць на польскую мову творы французскіх аўтараў. Яе працу ў гэтым напрамку добра зразумеў і падтрымаў былы паплечнік Кастуся Каліноўскага, выгнаннік і катаржнік Фелікс Зянковіч, які на той час жыў у Ноўгарадзе. Чалавек легендарнай біяграфіі, пакутнік за ідэю, інтэлектуал, ён блізка сышоўся з Тшашчкоўскімі і змог своечасова не тое каб абудзіць паэтычны талент, багаславёны Сыракомлем, а далікатна дапамагчы Зоф'і Манькоўскай паверыць у свае сілы і ў сваю зорку.



Лісты паэткі да Фелікса Зянковіча з 1881–1886 гадоў яскрава пацвярджаюць гэта, сведчачы адначасна пра яе выключны давер да свайго адрасата. У надзеі на зычлівую падтрымку яе пачынання ў беларускамоўнай песнятворчасці яна ў маі 1886 года пазнаёміла Ф. Зянковіча з сваімі перакладамі вершаў Марыі Канапніцкай, зазначыўшы пры гэтым: «Аднойчы ў мінулым годзе я пачала спяваць "Каліну" амаль мімаволі на сялянскай беларускай мове і паўтарыла дзяўчатам-служанкам – гэта выклікала захапленне, яны вучыліся па начах. На няшчасце, я не маю голасу і не магу ні спяваць, ні вучыць іншых. Але магу перакладаць і маю пару гатовых песень; я падумала, што нядрэнна было б, можа, пашырыць такі спеўнік (вядома ж, толькі жывым голасам)... Пасылаю Пану дзве песенькі – гэта толькі пачатак; я забыла беларускую мову, хоць вяртаюся да яе цудоўна, як да нянькі дзіцячых гадоў, а ў вушах маіх гучыць даўнейшая – без заганы».

Тую ж думку Зоф'я Манькоўская праводзіла і ў ліставанні з Зянонам Пшасмыцкім у 1887–1900 гадах. У лісце ад 26 красавіка 1888 года, напрыклад, яна пісала: «З паэтычнымі творамі [французскай паэткі] Акерман дашлю Пану яшчэ пару беларускіх перакладаў. Нядаўна ў "Штогодніках" пісалі, што калі б надрукавалі "Пана Тадэвуша" па-беларуску, мужыкі яго не чыталі б. А ці карэнныя польскія мужыкі чытаюць яго на польскай мове? Мяркую, што ніхто не скажа сцвярджальна, такія рэчы павінна распаўсюджваць інтэлігенцыя. Што беларуская песня мела б велізарны ўплыў, гэта я ведаю з уласнага вопыту: друкаваць не дазваляюць, але моладзь магла б несці яе па хатах. Калі ж вярнуся ўжо назаўсёды, горача сярод сваіх гэтым займуся».

З вясны 1886 года гэтае пытанне перад Зоф'яй Манькоўскай паўстала з усёй вастрынёю: яна атрымала ў спадчыну кавалак дарагавіцкай зямлі і асноўную сядзібу. Аднак шматлікія нявырашаныя праблемы затрымлівалі ў «нязносным» Ноўгарадзе, і паэтка яшчэ і ў 1890-я гады, рпыязджаючы на вясну і лета ў Дарагавіцу, вярталася ў Ноўгарад.

Перапісваючыся са З. Пшасмыцкім, паэтка працягвала знаёміць адрасата з беларускім словам – праз уласную арыгінальную творчасць (верш «Беларуская малітва»), пераклады з польскай мовы і цытаванне беларускіх выразаў (праклён нянькі Настулі: «Каб вам не здабраваць!»; прымаўка: «Чаму, чорце, сядзіш у балоце? Бо прывык» і інш.), тлумачыла сэнс пакінутай у тэкстах беларускай лексікі, а ў 1889 годзе на ліст з рэдакцыі «Ïусіе» годна адказала, што яна магла б прыдацца часопісу нават у даследаваннях, бо ведае беларускую мову і валодае «ёю свабодна нараўне з польскай».

Выдаўшы ў Кракаве паэму «Адзін з многіх» (1890), Зоф'я Манькоўская падрыхтавала да друку зборнік вершаў «Акорды мінулага», але варшаўская цэнзура не дала дазволу на друк. На «закардоннае» ж выданне патрэбны былі значныя затраты. На гэта выдаўца Гэбэтнер не адважыўся. Сама паэтка такой магчымасці не мела. Жорсткі лёс абрынуўся на яе чарадою няшчасцяў: у лютым 1898 года памерла маці, а 26 сакавіка і 20 красавіка пажары, выкліканыя зламыснымі падпаламі, знішчылі амаль усё (гумно, адрыну, дзве стайні, абору, вялікі дом для чэлядзі, два свірны, рэчавы склад, хлявы для жывёлы, 8 коней, насенне, запасы збожжа), абгарэў нават сад, уратаваць удалося толькі жылы дом. У лісце да З. Пшасмыцкага 22 мая 1898 года паэтка, гаспадыня знішчанай гаспадаркі пісала: «Усё, што атачала маё дзяцінства, не існуе». Але і ў гэтым выпадку яна дапамагала сіротам. Пасля пажару ў яе доме жыло болей дзесяці дзяцей, якіх лёс прыбіў да яе парога. Ім яна дапамагала ў набыцці граматы і спецыяльнасцяў, лічачы, што клопат пра іх – гэта «апошняя старонка непраспяванай паэмы».

У адным з лістоў да З. Пшасмыцкага (ад 19 ліпеня 1891 года), якому так і не адкрыла сапраўднага носьбіта крыптаніма Адам М-скі, Зоф'я Манькоўская прызнавалася: «Я ніколі нічога не сказаў дзеля фразы, пісаў тое, што адчуваў, у што верыў. Толькі такой справядлівасці дамагаюся і, здаецца мне, што дамагацца маю права». Жыццё і творчасць паэткі гэта пацвердзілі.

*Уладзімір МАРХЕЛЬ*

## жыхарах

Вайтовіч і яе муж. Можна лічыць, што іх прозвішча паходзіць ад слова «войт» (так у сярэднявеччы на Беларусі, Украіне і Польшчы называлі начальніка гарадскога пасялення) або ад «войта» – дачка войта; Фаіна Якубчык, яе прозвішча само за сябе кажа адкуль – ад імя Якуб; Таццяна Кажура, прозвішча ад слова «кажа», мае мянушку – Кубінцава – ад бацькі, ён у сваю чаргу атрымаў яе за яўнавыяўлены цёмны коллер скуры – Кубінец; Ганна Гранацкая, менавіта яе прозвішча паходзіць ад слова «гранат» – каштоўный камень ці паўднёвае дрэва, ці ад слова «град» або «горад»; Ганна Пінчук і Яўгенія Пінчук– цёзкі па прозвішчы – можна меркаваць, што іх прозвішчы паходзяць ад слова «пан» – чалавек з прывілеяваных класаў (памешчык, дваранін), раней ужывалі такое слова «панчаваць», што значыла панаваць, Мікалай Пінчук мае мянушку Даніла, ад імя дзеда; Сяргей Краўчонак, мянушка – Лататурка, атрымаў яе за тое, што любіць гаварыць ці «лапатаць»; Настасся Краўчонак, мянушка Габрусенка атрымана ад продкаў, прозвішча якіх было Габрусі, менавіта ад слова «абрус». У двух апошніх жыхароў прозвішчы таксама аднолькавыя і пайшлі ад назвы вёскі.

Адметнай рысай нашай мясцовасці з'яўляецца тое, што жыхароў вёсак называюць па яе назве. Напрыклад: Краўчонкі – краўчонскія, Дубавое – дубаўскія, Ваўчкі – ваўчкоўскія, Куляшы – куляшэўскія. Гэтыя вёскі знаходзяцца ў адным коле і жыхары іх вельмі з'яднаны, з вялікай павагай адносяцца адзін да аднаго. Яны таксама маюць цікавыя мянушкі і прозвішчы. Назва вёскі Куляшы пайшла ад прозвішча заснавальніка – Кулеш. Легенда кажа, што гэты чалавек любіў гатаваць «кулеш» – густая мучная або крупяная каша з салам, адгэтуль і яго прозвішча. Ёсць у вёсцы і, мабыць, нашчадак заснавальніка – Павел Кулеш, ён у сваю чаргу мае цікавую іншамоўную мянушку – Спонсар. Гэта – асоба, арганізацыя, фірма, якая выступае як паручыцель, заказчык, наладжвальнік, які фінансуе што-небудзь. Чаму ж у яго такая мянушка? А справа ў тым, што гэта самы забяспечаны чалавек у вёсцы, мае вялікую гаспадарку, займаецца бортніцтвам. Канстанцін Кулеш, таксама з вёскі Куляшы, мае мянушку Браздзецкі – ад продкаў, якіх называлі Бразджулі, ад слова «бразджаць» – утвараць дрыготкія гукі. У Аляксандра Хацяновіча прозвішча ад слова «хацець» або «хаця», зыходная мянушка – Хацян. У Ніны Краўчонак прозвішча ад наймення суседняй вёскі, мянушка Рахасіха атрымана ад бацькі Архася. У вёсцы Дубавое жыве Уладзімір Кулеш з яскравай знешнасцю, ён вельмі падобны да героя фільма «Цыган» Будулая, адсюль і атрымаў крыху змененую мянушку – Бабадай. Там жа жыве Яўгенія Ляшок, прозвішча ад слова «ляжаць», «ляж» або ад слова «ляшыць», мае мянушку Куслакова, атрыманую ад прадзедаў, якія былі кулакамі. У Міхаіла Кураца прозвішча ад слова «кур», «курыць», «курэц», мянушка Дармай дадзена за тое, што ён дарма нічога не робіць. Яшчэ адна цікавая мянушка ў жыхара вёскі Ваўчкі Анатоля Ляшка – Прымака, так называюць зяця, прынятага ў сям'ю жонкі, які жыве ў яе доме.

***

У гарадоў, вёсак, сёл, як і ў людзей, ёсць душы. Нягледзячы на ліхалецці, яны захоўваюць у сваёй душы чысціню і высакароднасць. Яны здольныя вылечыць ад жыццёвай мітусні і прымусіць падумаць пра вечнае, успомніць, хто мы, адкуль і куды ідзём. Калі хтосьці, прачытаўшы гэты аповед, зацікавіцца маімі роднымі мясцінамі ці захоча прыехаць, каб пазнаёміцца з іх жыхарамі, пахадзіць па сцяжынках навакольля, – буду ведаць, што дні, калі я пісала сказ, прайшлі недарэмна.

***Дзіяна ФІЛІПОВІЧ,***
***супрацоўніца аддзела бібліятэчнага маркетынгу Вілейскай РЦБС***

*Краязнаўчая прастора*

# Даверу – спраўдзіцца

***Узнікненне ў часопісе «Полымя» рубрыкі «Наш край» – сведчанне таго, што цікавасць да нашай мінуўшчыны, пасля таго як Беларусь стала самастойнай незалежнай дзяржавай, пастаянна ўзрастае – яе гісторыя даследуецца вельмі сур'ёзна, глыбока, абагачаецца новымі фактамі, доследамі вучоных, пісьменнікаў, журналістаў. Да канца года пад гэтай рубрыкай у бліжэйшы час з'явіцца шэраг грунтоўных матэрыялаў, у якіх аўтары запрашаюць нас у падарожжа па родным краі, каб расказаць пра яго багацейшую і неўміручую спадчыну.***

Ірына Клімковіч пазнаёміць вас, дарагія чытачы, з культавымі камянямі, якія складаюць значную частку сакральных помнікаў Вілейшчыны, некаторыя з іх абвешчаны і помнікамі культуры. Амаль з усімі гэтымі камянямі звязаны легенды, паданні, гістарычныя падзеі, шмат валуноў маюць імёны, адзнакі старажытнага ўшанавання.

Уладзімір Ісаенка звяртае ўвагу на палескую вёску Юравічы – былое мястэчка ў Калінкавіцкім раёне Гомельскай вобласці. Размешчана ля Прыпяці, за 20 кіламетраў ніжэй горада Мазыра. Мае багатую гісторыю, што бярэ свой пачатак ад самай старажытнай на тэрыторыі Беларусі стаянкі паляўнічых яшчэ на маманта. У XI–XIII стагоддзях тут існаваў горад, а да 1510 года адносяцца першыя пісьмовыя звесткі аб гэтых мясцінах. Шырокую вядомасць Юравічы набылі праз сваю святыню – цудатворны абраз Багародзіцы.

Сяргей Чыгрын у артыкуле «Палескія Афіны» пераносіць нас у старажытны Слонім з яго унікальнымі архітэктурнымі помнікамі, якія не дажылі да нашых дзён, захапляецца яго былой веліччу і славай, згадвае знакамітых гістарычных асоб.

Браніслаў Зубкоўскі свой нарыс «Прыстанак – Свіслач» прысвячае 125-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа, апісвае перыяд, калі народны паэт Беларусі ў час адпачынку ствараў свае неўміручыя творы на Пухавіччыне, паказвае, як складваліся ў яго трывалыя і моцныя сувязі з мясцовым насельніцтвам, як ён блізка да сэрца прымаў і шанаваў кожнае новае знаёмства і як гэта дапамагала яму ў творчасці.

Зацікавіць аповед Уладзіміра Содаля «Сцежкамі Мацея Бурачка». У ім чытач знойдзе малавядомае, звязанае з жыццём і творчасцю пісьменіка Францішка Багушэвіча, дзякуючы старым людзям з жуправа-кушлянскіх ваколіц, з якімі аўтару пашчасціла сустрэцца.

Віктар Гардзей прапануе жыццяпіс нашага славутага земляка Алеся Сержпутоўскага. Нарадзіўся ён 21 чэрвеня 1864 года ў беднай сялянскай сям'і ў вёсцы Бялевічы Слуцкага павета Мінскай губерні. Малады вучоны, пачынаючы з 1906 года, друкуе навуковыя працы ў часопісах, газетах, акадэмічных зборніках. Так, у нарысе «Беларусы-палешукі» апісаў пабудовы, побыт, звычкі і вераванні сялян Мазыршчыны, Случчыны, Ганцаўшчыны. Даследаваў земляробчыя прылады, бортніцтва, сябрыну, талаку, расказаў нават пра лоўлю ўюноў на Палессі і бонду – звычай частаваць блізкіх і суседзяў свежынай, новым хлебам, садавінай. Выдаў зборнікі «Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў» (1911), «Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета» (1926), «Прымхі, забабоны беларусаў-палешукоў» (1930). Менавіта гэтыя працы сталі значнай з'явай у гісторыі беларускай фалькларыстыкі, этнаграфіі, мовазнаўства. За зборнік народных прыказак з слоўнікам атрымаў залаты медаль Рускага геаграфічнага таварыства.

У «Аповядах старасвецкай Лошыцы» Юрыем Кур'яновічам дастаткова поўна і падрабязна, ад першых архіўных звестак да сённяшніх дзён, выкладзена гісторыя аднаго з найпрыгажэйшых маёнткаў Беларусі XIX стагоддзя – Лошыцкай сядзібы.

Да 450-годдзя з дня нараджэння Льва Сапегі падрыхтаваў грунтоўны матэрыял Анатоль Мяснікоў.

Мікалай Гайба з Навагрудка прэзентуе чытачу сваю сур'ёзную даследчую працу «Радзіма і я – неразлучны». У яе фокусе Адам Міцкевіч і Навагрудчына. Дасведчана, дэталёва і хвалююча расказвае аўтар пра гэту вельмі моцную і дарагую сэрцу паэта сувязь са сваёй Радзімай. На Навагрудчыне не толькі карані Адама Міцкевіча, а крыніца яго натхнення – беларускі фальклор, песні, балады. Тут, як нідзе, шырока і поўна адкрылася яму душа народа і абагаціла творчасць паэта-пачаткоўца і на ўсе астатнія гады.

Вось няпоўны пераказ матэрыялаў, якія з'явяцца ў канцы гэтага і першай палове наступнага года ў часопісе «Полымя» пад рубрыкай «Наш край», што далучае да нашай краёвай слыннай і малавядомай гісторыі.

***Пятро САБІНА,***
***рэдактар аддзела часопіса «Полымя», кіраўнік праекта «Наш край»***

**Ад рэдакцыі.** ***Хто з нас можа ўсумніцца ў значэнні часопіса «Полымя»? Мы абавязкова будзем віншаваць яго з юбілеем (у снежні гэтага года яму спаўняецца 85). Але і значна маладзейшая «КГ» чакае таксама сваёй увагі – хутка спаўняецца 5 гадоў, як «КГ» сканцэнтравала свае намаганні менавіта на спецыяльным, грунтоўным развіцці краязнаўства.***

***Мы падтрымліваем іншых аднадумцаў, як і чакаем адпаведнай падтрымкі ад іх.***




*(Працяг. Пачатак у № 41)*

## Пачатак літаратурнай творчасці

Занятак літаратурнай творчасцю пачаўся яшчэ ў Равічу, аднак свае самыя вядомыя раманы Пясэцкі піша ў турме «Святы Крыж».

Ён не ведаў літаратурнай польскай мовы, больш таго, ён меў зносіны з людзьмі, якія размаўлялі на пярэстай сумесі розных моў. У турэмнай камеры, памерам каля пяці квадратных метраў, у якой знаходзілася 18 зняволеных, Пясэцкі пачынае вывучаць польскую мову. Жорсткія правілы ўтрымання забаранялі мець больш аднаго сшытка, старонкі якога павінны былі быць сашчэпленыя і пранумараваныя, а тэкст, пасля таго, як спісаны сшытак, здаваўся ў адміністрацыю турмы, правяраўся цэнзурай.

Можна толькі здагадвацца пра тое, дзе Пясэцкі знайшоў абрывак газеты з паведамленнем пра конкурс на напісанне рамана. У 1934 годзе, на працягу 28 дзён, ён піша аўтабіяграфічны раман «Пяты этап», у якім апісвае жыццё агента разведкі. Раман канфіскуе цэнзура. У 1935 годзе на працягу некалькіх месяцаў Пясэцкі піша яшчэ два раманы: «Жыццё раззброенага чалавека» і «Каханак Вялікай Мядзведзіцы». Пасля цэнзуры апошні раман трапляе ў рукі вядомага журналіста і выдаўца Мельхіёра Ваньковіча, які адразу распазнаў у аўтары рамана таленавітага пісьменніка. Ваньковіч наведвае Пясэцкага ў турме, падпісвае з ім дамову на выданне рамана і пачынае ў прэсе кампанію па вызваленні яго з турмы. У пачатку жніўня 1937 года Пясэцкі аказваецца на волі. У першы ж дзень ён адпраўляе ў турму харчовыя пасылкі сваім таварышам па камеры.

Першае выданне рамана чытачы раскупляюць за месяц. На працягу наступных двух гадоў раман перавыдаецца пяць разоў.

Пясэцкі вымушаны жыць у правінцыі пад наглядам паліцыі. Літаратурны поспех яго «жыццёвых» раманаў менавіта ў гэты час дасягае свайго апагею. Выдадзеныя кнігі перакладаюцца на шматлікія мовы свету і актыўна раскупляюцца. У гэты час Пясэцкі знаёміцца з вядомымі дзеячамі польскай літаратуры, але трымаецца падкрэслена аддзелена. У 1938 годзе яго кандыдатура сур'ёзна разглядаецца на прысуджэнне Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры. Але жыццё зноў рыхтуе новыя выпрабаванні...

## Жыццё падпольшчыка

З пачаткам Другой сусветнай вайны літаратурная дзейнасць Пясэцкага перарываецца: ён ідзе ў армію добраахвотнікам. Займае пасаду намесніка камандзіра роты ў батальёне Корпуса Аховы Мяжы. Прымае ўдзел у польскім узброеным супраціўленні на Віленшчыне. Супрацоўнічае з рознымі падпольнымі арганізацыямі. Аддзел камандавання Арміі Краёвай у Вільні быў добра дасведчаны пра дзейнасць Пясэцкага ў якасці агента разведкі на тэрыторыі гэтага краю. Заданне, якое яму прапаноўваюць выканаць, было вельмі адказнае і няўдзячнае па сваіх наступствах. Яму далі незвычайна строгае і ў той жа час гнюснае заданне – кіраваць групай, якая павінна была выконваць смяротныя прысуды, вынесеныя падпольным судом у дачыненні да асоб, што супрацоўнічалі з фашыстамі. Пясэцкі прымае прызначэнне, але з адной умовай: ён адмаўляецца прыносіць прысягу, матывуючы гэта сваімі прынцыпамі індывідуаліста. Дзякуючы яго асабістаму ўмяшальніцтву было не раз выратавана жыццё людзей, у дачыненні да якіх прымалася занадта спешнае рашэнне аб ліквідацыі. Сярод іх можна назваць імя пісьменніка Юзэфа Мацкевіча. За правядзенне аперацыі па выкраданні дакументаў, якія належалі Зыгмунту Андрушкевічу, аднаму з кіраўнікоў віленскага аддзела Арміі Краёвай (сярод дакументаў быў архіў аб злачынстве ў Катыні), з будынка гестапа Пясэцкі быў узнагароджаны Крыжам за Заслугі з Мячамі.

Падчас вайны Мельхіёр Ваньковіч выдае творы Пясэцкага ў Швецыі, Нарвегіі, Францыі, Італіі, Даніі і Іспаніі. Ваньковіч хавае гэты факт ад аўтара, і пісьменнік не атрымлівае ні капейчыны.

*(Заканчэнне на стар. 8)*

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 7)*

## Апошні этап

Пасля вайны Пясэцкі... вымушаны быў хавацца ад савецкіх і польскіх органаў бяспекі. Канфіскуюцца і знішчаюцца яго кнігі, арыштоўваюць яго знаёмых. Апошні раз у жыцці ён нелегальна пераходзіць мяжу, каб праз Чэхаславакію і Нямеччыну патрапіць у Італію. Адтуль разам з жаўнерамі 2-га Польскага корпуса ён пераедзе ў Глазга, там некаторы час знаходзіцца ў лагерах для перамешчаных асоб. Пасля дэмабілізацыі пасяляецца ў Лондане. У эміграцыі Пясэцкі піша раманы: «Сем пігулак Люцыфера», «Запіскі афіцэра Чырвонай Арміі», дылогію «Вавілонская вежа». Яго кнігі працягваюць выдавацца ў шматлікіх краінах свету. У Мексіцы ў 1963 годзе выходзіць раман «Жыццё раззброенага чалавека». Аднак пісьменнік вымушаны жыць у бядноце. Да канца жыцця ён не меў пастаяннага прытулку. «1954 год прайшоў у мяне фатальна. Я скончыў яго цяжкай фізічнай працай ад цямна да цямна, пасля якой меў абадраныя пазногці, усё цела ў ранах і сіняках, працаваць павінен быў без перапынку нават па нядзелях. <...> Я працаваў нават хворы на грып. Глытаў пігулкі, абліваўся потам, але пераадольваў хваробу. Заплацілі даволі добра, таму зараз можна пару тыдняў пісаць далей. І ёсць што...»



*С. Пясэцкі напрыканцы жыцця*

Аднак і ў гэтых умовах існавання Пясэцкі застаецца самім сабою. Вось як ён сам апісаў сваё жыццё у Лондане: "Зараз я жыву ў горадзе, у якім жыве ў купе столькі людзей, колькі ў Літве, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі і Нарвегіі разам. Таму тут цесна і нудна. Горад гэты называецца Лондан. Жывуць тут: англічане, паліцыянты і я. Англічане праўдападобна размаўляюць па-ангельску, бо я іх зусім не разумею і падазраю, што і яны сябе не разумеюць. Напрыклад, з адным з іх я "размаўляў" дзве гадзіны, выкарыстоўваючы толькі тыя – вядомыя мне – выразы: так... не... і ох! Гэтага мне хапіла. Дзеялася то, праўда, у "публічным доме" – не ўсміхайцеся: у размоўнай мове гэта БАР. Мы пацiснулі рукі на развітанне – што англічане робяць у якасці выключэння – і абмяняліся адрасамі. Праз два дні я атрымаў ліст, у якім сцвярджалася, што я надзвычай прыемны суразмоўца і распавядаю вельмі цікавыя "story". Лічу гэта найвялікшым кампліментам, які я калі-небудзь атрымліваў. Паліцыя замест таго, каб канкураваць альбо супрацоўнічаць са злачынцамі і атручваць жыццё грамадзянам – як гэта дзеецца ў іншым месцы – апякае іх, ахоўвае дзяцей ад здарэнняў і вельмі паслухмяна, дакладна і ахвотна інфармуе тых, хто аб гэтым просіць».

Здароўе гэтага незвычайнага чалавека пагаршаецца: дае аб сабе знаць бурна пражытае жыццё. З пачатку 1964 года Пясэцкі праходзіць курс лячэння ў розных клініках Лондана.

12 верасня 1964 года ў Польскім Шпіталі ва Уэльсе ён памірае.

На магіле Пясэцкага ў Гастынгсе зззяюць выбітыя ў камені пуцяводныя зоркі Вялікай Мядзведзіцы.

***Сяргей ЧАРАНОВІЧ,***
***г. Ляхавічы***



***Вуліца старых Баранавічаў***

*Фота Леаніда БАРОЎСКАГА*

## Лістапад

**11 – «Гомельская праўда», газета (1917)** – 90 гадоў з пачатку выдання.

**14 – Ларчанка Міхась** (Міхаіл Рыгоравіч; 1907, Слаўгар. р-н – 1981), літаратуразнавец, крытык, заслужаны дзеяч навукі Беларусі – 100 гадоў з дня нараджэння.

**15 – Магілёўскі абласны краязнаўчы музей (1867)** – 140 гадоў з часу заснавання.

**15 – Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі, вышэйшая музычная навучальная ўстанова** (Мінск, 1932) – 75 гадоў.

**20 – Каніскі Георгій** (свецкае Рыгор; 1717–1795), украінскі і беларускі царкоўны і грамадскі дзеяч, беларускі праваслаўны святы, пісьменнік – 290 гадоў з дня нараджэння.

**26 – Скрыпка Міхась** (Міхаіл Аляксандравіч; 1907, Бярэзін. р-н – 1991), пісьменнік-сатырык, драматург – 100 гадоў з дня нараджэння.

**29 – Жыркевіч Аляксандр Уладзіміравіч** (1857, Віцеб. губ. – 1927), пісьменнік, ваенны юрыст, калекцыянер, генерал-маёр – 150 гадоў з дня нараджэння.

**30 – Казімір IV Ягелончык** (1427–1492), вялікі князь ВКЛ, кароль польскі – 580 гадоў з дня нараджэння.

## І ў сутарэннях, і на гарышчах...

З пачатку гэтага года ў сутарэннях жылых дамоў і адміністрацыйных збудаванняў сталіцы адбылося 70 пажараў. А звыш дзесятка разоў «чырвоны певень» сягаў на гарышчы будынкаў. Зазначым, што пажары менавіта ў такіх памяшканнях найбольш небяспечныя.

У сутарэннях ці на гарышчах у залежнасці ад планіроўкі будынкаў, як правіла, знаходзяцца асноўныя камунікацыі: разводкі электракабеля, трубы, цеплавузлы, вадамеры. Іх выхад са строю ў выніку пажара запатрабуе на ўзнаўленне значных матэрыяльных выдаткаў. Акрамя таго, у каморах сутарэнняў многія захоўваюць не толькі старызну, але і вадкасці, што лёгка запальваюцца, лакі, фарбы. А жаданне гора-гаспадароў асвятліць сваё «ўладанні» (часцяком самавольна і супраць нормаў) «пераноскамі» – міна запаволенага дзеяння.

З надыходам восеньскіх халадоў існуе яшчэ адна праблема – асобы без пэўнага месца жыхарства, якія знаходзяць для сябе начлег у сутарэннях і на гарышчах жылых дамоў. Часам здзіўляе абыякавасць жыхароў, якія пры ўсёй відавочнасці суседства з падазронымі асобамі не трывожацца, не паведамляюць адпаведным органам.

Рэгулярныя рэйды праверкі па супрацьпажарным стане жылых дамоў дазваляюць выявіць «слабыя месцы» і дасягнуць аператыўнага выпраўлення недахопаў, але без падтрымкі жыхароў з гэтай задачай справіцца будзе куды больш складана.

### Як грэцца, каб не загарэцца

Наша жыццё не ўявіш без сучасных, зручных, практычных электраабагравальнікаў: уключыш прыбор – і праз колькі гадзін адчуваеш сябе камфортна і ўтульна. Праўда, гарантаваць такі камфорт можна толькі тады, калі правілы карыстання электраабагравальнікамі не парушаюцца.

**Каб у Вашым доме не здарылася бяда, прыслухайцеся да наступных рэкамедацый:**

– сыходзячы, не забывайце выключаць электрапрыборы з сеткі;

– не дазваляйце дзецям карыстацца электранагравальнымі прыборамі;

– уключаныя прас, электраплітку, іншыя прыборы варта ставіць на незгаральныя цеплаізаляцыйныя падстаўкі;

– не падключайце да сеткі адначасова некалькі прыбораў вялікай магутнасці;

– сачыце за станам ізаляцыі праводкі;

– не стаўце электранагравальныя прыборы паблізу гардзінаў і не сушыце на іх адзенне ды абутак;

– не пакідайце ўключаныя электрапрыборы без нагляду, не допускайце іх перагрэву.

Сыходзячы з дому, выключайце і вымайце з сеткі шнуры ўсіх прыбораў, акрамя халадзільніка. А на выпадак НЗ абмяняйцеся нумарамі тэлефанаў з суседзямі па лесвічнай пляцоўцы.

***Вольга ЦЫНКЕВІЧ,***
***інспектар ЦРАНС***

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**«ГІСТОРЫЯ ПРА АПАЛОНА ЦІРСКАГА»** – помнік перакладной беларускай літаратуры, свецкая аповесць блізкаўсходняга паходжання. Карысталася папулярнасцю на Беларусі ў XVII–XVIII стст. У цэнтры ўвагі твора – апісанне прыгод знатнага чалавека з грэчаскага г. Ціра, які шмат гадоў вандруе па розных краінах, шмат чаго бачыць, трапляе ў самыя нечаканыя сітуацыі, але шчасліва вяртаецца на радзіму і становіцца яе ўладаром. На Беларусі твор меў абыходак у складзе вядомага зборніка навел «Рымскія дзеянні». Адзін з яго рукапісаў быў перапісаны ў Магілёве ў 1688 г. Мова магілёўскага спіса – сумесь старабеларускай і стараславянскай моў XVII ст.

**«ГІСТОРЫЯ ПРА АТЫЛУ»** – помнік перакладной беларускай літаратуры апошняй чвэрці XVI ст. Гэты твор належыць пяру венгерскага пісьменніка М. Олаха, а пераклад з польскага тэксту 1574 г. на старабеларускую мову быў ажыццёўлены ў шляхецкім асяроддзі сённяшняй Навагрудчыны. Беларускамоўная «Гісторыя пра Атылу» захавалася ў адзіным спісе, так званым Пазнанскім зборніку канца XVI ст. У ёй па-свойму ўзнаўляюцца падзеі V ст., эпохі «вялікага перасялення народаў», адлюстроўваюцца многія ваенныя паходы і бітвы, паказваецца гераізм еўрапейскіх народаў у барацьбе супраць нашэсця варвараў. Праўда, «біч божы», Атыла, паказаны выдатным палкаводцам, натхнёным заступнікам сваіх воінаў-гунаў, для якіх мо і сапраўды ён быў менавіта такім.

Арыгінал хронікі-аповесці напісаны на лацінскай мове на аснове венгерскіх хронік і іншых сярэднявечных крыніц фальклорнага і літаратурнага паходжання, таму тут усё пераплецена – гістарычная праўда і вымысел. Ды, як і цяпер, у старажытныя часы таксама любілі чытаць пра незвычайных людзей, у тым ліку і тыранаў-дэспатаў, авантурыстаў і інш.

**«ГІСТОРЫЯ ПРА ВАРЛААМА і ІАСАФА»** – помнік перакладной беларускай літаратуры XVII ст. Арыгінал пабачыў свет у далёкай Індыі на аснове народных паданняў пра Буду, праз персідскія і арабскія абшары патрапіў у старажытную Грэцыю, а ў XI ст. стаў вядомы славянам. У творы жывапісна адлюстроўваецца жыццё індыйскага царэвіча Іасафа, які пад уплывам хрысціянскага прапаведніка Варлаама не толькі прыняў новую веру, але і стаў яе фанатычным прыхільнікам, пачаў далучаць да яе блізкіх і родных, а таксама свой народ. Пазней па пэўных прычынах пакінуў свецкае жыццё і стаў пустэльнікам. Зразумела, твор распаўсюджваўся найперш намаганнямі царкоўнікаў з-за яго царкоўна-аскетычнай тэндэнцыі, ідэі ўсеперамажной сілы хрысціянства. Беларускі пераклад быў надрукаваны ў 1637 г. у Куцеінскай друкарні і стаў непасрэднай крыніцай для перакладу на рускую мову, які быў апублікаваны ў 1681 г.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасны – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26, 334 61 62. Тэл./факс 334-42-03 E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары донісаў у рэдакцыю павадамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас. Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 08.11.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Карканеўскага, 14). Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 1345.
Тыраж 1270 асобнікаў.